

Пейджинговую связь "ГС" обеспечивает НП ООО "Защита-Сервис". ТЕЛЕФОН В Г.ГРОДНО (8-22)-75-00-66, В Г.СЛОНИМЕ 2-64-44.

# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

№29 (215). 19 — 25 ліпеня 2001г. Масава-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 150 руб.



НАВІНЫ

## В СЛОНИМЕ – НОВЫЙ КОМБРИГ

**Александр Лукашенко рассмотрел ряд кадровых вопросов.**

Как сообщает пресс-служба президента Беларуси, глава государства назначил: Александра Никитина — командиром 65-го армейского корпуса Вооруженных Сил Республики Беларусь; Валерия Хохлова — командиром 11-й гвардейской отдельной механизированной бригады 28-го армейского корпуса; Александра Межуева — командиром 50-й гвардейской отдельной механизированной бригады 28-го армейского корпуса.

Президент также дал согласие на назначение: Валерия Скворцова — заместителем председателя Государственного комитета по печати Республики Беларусь; Сергея Ушакевича — председателем Щучинского районного исполнительного комитета; Станислава Юргеля — председателем Сморгонского районного исполнительного комитета.

**БелаПАН**

## САЎГАСА "МАЛАДАЯ ГВАРДЫЯ" УЖО НЯМА

**Згодна дэкрэтам прэзідэнта № 11 і 22 прайшлі перарэгістрацыю і памянялі назву ўсе саўгасы Слонімшчыны. Цяпер яны называюцца ўнітарнымі прадпрыемствамі.**

Напрыклад, саўгас "Маладая гвардыя" стаў сельскагаспадарчым прадпрыемствам "Шылавічы", саўгас "Слонімскі" — унітарным прадпрыемствам "Навадзевяткавічы", саўгас "Перамажац" перайменаваны ў прадпрыемства "Перамажац" і г.д.

У сувязі з гэтым карэспандэнт "ГС" задаў пытанне некаторым работнікам адміністрацый гэтых прадпрыемстваў: што дасць новая назва іхнім гаспадаркам?

— А нічога, — адказалі былыя саўгаснікі, — акрамя дадатковых фінансавых расходаў на пераафармленне дакументаў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



## ПРОГНОЗ ПОГОДЫ

**по Гродненской ОБЛАСТИ**

**19 ИЮЛЯ** ночью на большей части, днём местами кратковременные дожди, грозы.
**20 ИЮЛЯ** преимущественно без осадков. Ветер юго-западный 4 - 9 м/с, при грозах местами порывы до 15 - 18 м/с.
**Температура воздуха** ночью +13+18, днем 19.07. – +20 +25, 20.07. – +22 +27.

**Облгидрометеоцентр**

# ЛЕТНЯЯ ВАНДРОЎКА



Фота Віталя Гілі

*Каля кракоцкай крыніцы*

**Беларускі географ Аркадзь Смоліч назваў Слонімшчыну беларускай Швейцарыяй. Я яшчэ раз пераканаўся ў гэтым, калі ў мінулыя выхадныя мы разам з мінскім журналістам Сяргеем Плыткевічам — рэдактарам газеты "Туризм и отдых", зрабілі летнюю вандроўку па нашым краі. "Хонда", на якой прыехаў да нас мінскі калега, даволі шыкоўная і хуткасная машына. А Сяргей Плыткевіч — не толькі выдатны фотажурналіст, але і добры кіроўца. За два дні мы аб'ехалі амаль усю Слонімшчыну і палову Зэльвеншчыны. Узброіўшыся фотаапаратамі, Сяргей Плыткевіч і фотакарэспандэнт "ГС" Віталь Гіль толькі паспявалі здымаць прыгожыя мясціны Слонімскай і Зэльвенскай зямель, помнікі архітэктуры і людзей.**

**(Працяг на 9 стар.)**

# ДОМАШ. СИЛЬНАЯ ЛИНИЯ ЖИЗНИ

**— Семен Николаевич, сегодня наша страна находится накануне выборов нового президента Республики Беларусь. Более двадцати кандидатов претендуют на этот пост. Какие качества, на Ваш взгляд, обязательно должен иметь новый глава государства?**

— Во-первых, он должен быть уравновешенным, серьезным, ответственным человеком. Во-вторых, новый глава государства обязан пройти основные ступени управленческой лестницы. Только тогда человек приобретает необходимый опыт и появляются какие-то гарантии от непоправимых ошибок. Последние семь лет всем нам прекрасно показали, что бывает, когда человек перепрыгивает через множество ступенек и из директора совхоза внезапно превращается в президента. Все говорят, что Лукашенко очень старается, но у него не получается или ему мешают. У него и не может получиться, потому что сел не в свои сани.

**— А есть ли опыт государственного управления у Вас?**

— Вполне достаточный. В 24 года уже был директором автобазы, а в 27 лет возглавил Гродненский автокомбинат. Был председателем исполкомов Лиды и Гродно. Колоссальный опыт государственной деятельности дало руководство Гродненской областью в качестве председателя облисполкома (1993-1994 гг.) и председателя областного Совета народных депутатов (1993-1996 гг.). Был депутатом Верховного Совета 12-го и 13-го созывов, членом Президиума Верховного Совета Республики Беларусь.



Имею два диплома: экономиста и механика по ремонту автомобилей. К тому же 51 год — оптимальный возраст для политика, когда он находится на подходе к пику своих возможностей, интеллектуальных и физических.

**— А что является сегодня самым характерным для белорусской политики?**

— Пришло время новой политики, новых подходов и новых лидеров. В 90-е годы в общественной жизни Беларуси доминировали крайний радикализм и политическая неустойчивость. Лукашенко и Позняк — на первый взгляд — два политических антипода. Но на самом деле, они близнецы-братья. Суть их политической философии — постоянная и беспощадная борьба с мнимыми врагами, внутренними и внешними. Только Позняк считает врагом Восток, а Лукашенко — Запад. По своей природе это разрушители, революционеры и ниспровергатели. Однако, время пламенных революционеров и непримиримых бойцов безвозвратно закончилось. Сегодня требуются усилия профессиональных хозяйственников и управленцев.

Пора налаживать полноценную жизнь. Пришло время созидать. Для этого прежде всего необходимо преодолеть раскол нашего общества. Хватит уже делить народ на друзей и врагов, своих и чужих. Мы все, независимо от политических убеждений, возраста, пола, национальности, религиозной принадлежности, языковых предпочтений, дети этой земли, граждане этой прекрасной страны. Ее хватит на всех. Давайте построим вместе Дом Наш — Беларусь, в котором всем его жителям найдется достойное место.

**(Продолжение на 4 стр.)**

ЗДАРЭННІ

## ЯРШОЎСКІ СТРАЛОК

**На адной са слонімскіх вуліц сярод белага дня прагучалі стрэлы. Здарылася гэта 8 ліпеня.**

42-гадовы слонімец, які пражывае на вуліцы Яршова, вярнуўся дамоў на добрым падпітку. Каб трохі пазабаўляцца, узяў двухстволку 12 калібру, некалькі патронаў і выйшаў на балкон. Наставіўшы стрэльбу на суседні дзевяціпавярховы дом, пачаў страляць.

Шрот патрапіў у адну з кватэр, дзе жыла звычайная сям'я. Людзі неўзабаве выклікалі міліцыю.

Сычшыкі па траекторыі выстралу вызначылі месца, адкуль стралялі.Праз некалькі хвілін яны затрымалі п'янага мужчыну, які ў мінулым быў паляўнічым, але дазвол на зброю ў яго даўно састарэў і лічыцца несапраўдным.

Па асабістаму прызнанню, яршоўскі стралок вырашыў напалохаць птушак, але прамахнуўся.

Па дадзенаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

## ЗНОЎ ТРАГЕДЫЯ НА ЛАБАЗОЎСКІМ ВОЗЕРЫ

**За нядзелю, 15 ліпеня, на Гродзеншчыне ўтапіліся 13 чалавек.**

З іх — двое слонімскіх школьнікаў сталі ахвярамі возера, што ў Лабазоўцы. Вучыліся яны ў СШ №4: адзін — у восьмым класе, другі - у 11-ым. Гэтая трагедыя адбылася таксама ў нядзелю. А ў аўторак тапельцаў знайшлі выратавальнікі.

## СЛАНІМЧАНКА ПАДАЗРАЕЦЦА Ў ЗАБОЙСТВЕ

**У Барысаве на беразе ракі ў багажніку ўласнай аўтамашыны былі выяўлены труп мясцовага 38-гадовага жыхара.**

У яго забойстве падазраюцца 26-гадовы жыхар Барысава і яго знаёмая са Слоніма.

Забойцы селі ў машыну і папрасілі вадзіцеля адвезці іх у старую частку горада. Па дарозе яны патрабавалі ад кіроўцы грошай, а пасля папрухаю яго задушылі і труп засунулі ў багажнік.

Узбуджана крымінальная справа.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## ВІДЭЛЕЦ — ТАКСАМА ЗБРОЯ

**Падчас сваркі жыхар вёскі Жыхі Дзятлаўскага раёна, спрабуючы даказаць сваю праваты, пусціў у ход відэлец.**

Сваіму апаненту ён нанёс пранікаючыя раненні ў жывот і бядро.

## ПАМЕРЛА НА СОТКАХ

**Паблізу вёскі Жыхі Дзятлаўскага раёна на бульбяных сотках знойдзены труп пенсіянеркі Ягеніі Жых.**

Высветлілася, што жанчына памерла на дзялцы, якую апрацоўвала ад пустазелля.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

НАВІНЫ

## Смерть на производстве

**Как сообщает Хартия'97, с января по июль 2001 года по данным Комитета по инспекции труда при Министерстве труда, 103 человека погибло в результате несчастных случаев на производстве, это на 16 человек меньше, чем за аналогичный период прошлого года.**

По данным слонимской зональной инспекции труда, за шесть месяцев текущего года в результате несчастных случаев на производстве в Слониме и Слонимском районе никто не погиб. В Зельвенском районе за этот же период погиб один человек.

За прошлый год по городу и району было четыре смертельных случая на производстве.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

КУРСЫ ОБМЕНА ВАЛЮТ ПО СОСТОЯНИЮ НА 18 ИЮЛЯ 2001Г В СЛОНИМЕ

| "Приорбанк" | | |
|---|---|---|
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1415 | 1447 |
| 1 DM | 600 | 630 |
| 1 RUR | 47 | 49 |
| "Беларусбанк" | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1423 | 1445 |
| 1 DM | 605 | 624 |
| 1 RUR | 47 | 49 |
| АК "Белпромстройбанк" | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1420 | 1447 |
| 1 DM | 600 | 630 |
| 1 RUR | 47 | 49 |
| "Белагропромбанк" | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1415 | 1440 |
| 1 DM | 590 | 610 |
| 1 RUR | 48 | 49 |
| Нацбанк РБ | | |
| 1 EURO | 1190 | |

ЦЕНЫ НА СЛОНИМСКОМ РЫНКЕ ПО СОСТОЯНИЮ НА 18 ИЮЛЯ 2001Г

| Продукт | Цена за кг |
|---|---|
| Клубника | 800 |
| Бананы | 1000 - 1100 |
| Апельсины | 1600 - 1700 |
| Яблоки | 1500 - 1600 |
| Огурцы | 350 - 400 |
| Помидоры | 800 - 1200 |
| Капуста | 300 - 350 |
| Морковь | 300 - 500 |
| Лук | 100 - 650 |
| Чеснок | 2000 |
| Картофель | 85 - 250 (мол.) |
| Молоко | 250 за 1л |
| Творог | 700 |
| Масло | 2600 |
| Яйца | 900 - 1000 |
| Свинина | 2300 - 4000 |
| Говядина | 2800 - 3700 |
| Баранина | - |
| Сало соленое и свежее | 2500 |
| Телятина | 2200 - 3600 |
| Мед | 5500 за кг |
| Сметана | 1000 |
| Персики | 200 за 1 шт. |
| Лимоны | 1700 |
| Арбуз | 1000 |



**Рэдакцыя і аўтары матэрыялу "Палкоўніку так ніхто і не піша" ("ГС" №28 за 12 — 18 ліпеня 2001г.) перапрашаюць Леаніда Матвеевіча Журовіча за недакладнасць у напісанні яго прозвішча.**

ПРАБЛЕМА

# ГДЕ СПРЯТАТЬСЯ, ОЖИДАЯ ТРАНСПОРТА?

**В "Газету Слонімскую" позвонила женщина и пожаловалась на то, что в городе "очень мало хорошо оборудованных автобусных остановок". "На улице так жарко, негде даже спрятаться от солнца, когда ожидаешь транспорт", — сказала звонившая.**

По словам начальника дорожно-эксплуатационного участка Ивана Якимца, "на сегодняшний день благоустройство автобусных остановок — очень дорогостоящее дело — от 1,5 миллионов рублей и больше. Одна мусорная урна стоит от 30 до 200 тысяч рублей". Больше всего беспокоит Ивана Николаевича отношение людей к имуществу: "У нас же все ломают, крушат. Люди должны понимать, что городу недешево обходится благоустройство автобусных остановок, которыми они же и пользуются".

**Ольга ШИНКЕВИЧ**



*Одна из автобусных остановок города Слонима*

# ДАРАГАЯ ВАДА

**У летні перыяд, звычайна, "Слонімскі вадаканал" уводзіць дадатковую плату за паліў агародаў для гаспадароў прыватнага сектару, дзе ёсць вадаправод, а лічыльніка расходу вады няма.**

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" галоўны інжынер прадпрыемства Алег Конан, сума за скарыстаную ваду налічваецца, сыходзячы з памеру прысядзібнага зямельнага ўчастка. Больш сотак — большая плата, менш — меншая.

Аднак у Слоніме ёсць дамы і з вадаправодамі, і з калодзежамі на падворку. Гаспадары такіх сядзібаў, як правіла, паліваюць свае агароды электрапомпай з калодзежа. Натуральна, што яны не хочуць плаціць дадатковыя грошы за паліў. А таму пішуць заяву аб вызваленні ад дадатковай платы. Камісія з вадаканала выязджае на месца, правярае, як паліваюцца грады, і ў індывідуальным парадку вырашае, задаволіць просьбу гаспадара, ці не. І вось тут могуць узнікнуць непаразуменні. Так сваю гісторыю пра ваду расказаў жыхар Баранавіцкай вуліцы, што ў Альбярціне, Валерый Шлемін.

Па словах Валерыя Міхайлавіча, ён палівае агарод з калодзежа і ў сёлетні палівачны сезон напісаў заяву аб вызваленні ад дадатковай платы за ваду. Работнікі вадаканала праверылі, як палівае агарод, але заява гаспадара не была задаволена, і за два месяцы ён заплаціў вадаканалу 8900 рублёў, хаця ў іншы час плата за ваду складала 200 - 300 рублёў у месяц. Калі чалавек звярнуўся да работнікаў прадпрыемства за тлумачэннямі, то нічога зразумелага для сябе не пачуў. У прыватнасці, яму сказалі, што, каб вызваліць яго ад аплаты за паліў, патрэбна даведка з санэпідэмстанцыі, што вада ў калодзежы... прыгодная для піцця. Але з калодзежа паліваюць агарод, а для гатавання і піцця выкарыстоўваецца вада з вадаправода. Хаця наўрад ці яна лепшая па якасці за калодзежную. Бо мы ці не кожны дзень бачым ваду колеру кавы, якая цячэ з вадаправодных кранаў... Але гэта ўжо іншая праблема.

А Валерый Шлемін, каб не канфліктаваць больш з вадаканалам, купіў сабе лічыльнік вады. І гэта ў падобнай сітуацыі — найлепшае выйсце, калі, канешне, у чалавека ёсць грошы.

**Мікола КАНАНОВІЧ**




# ДОМАШ УВЕРЕН: КТО ЕСТЬ КТО

"Я однозначно уверен, что Машерову Лукашенко использовал как лакмусовую бумажку. Он бросил ее специально, чтобы проверить, насколько тверд его электорат. Когда он увидел, что она набирает рейтинг и выполнила свою функцию, ее убрали с этой политической арены. Это однозначно. Сама бы она никогда в жизни не пошла, что бы там ни было, что бы про нее ни говорили. Я, например, подозреваю, и не только я, что еще примерно пять человек брошены для того, чтобы размывать тот электорат, который называют протестным", — заявил потенциальный кандидат в президенты Беларуси Семен Домаш во время встречи с членами инициативных групп по сбору подписей в Брестской области.

Отвечая на вопрос, кто эти "пять человек", С.Домаш сказал: "Скребец и Даньков. Мы однозначно уверены, что такую же роль выполняет Калугин. У нас есть сомнения по кандидатурам Синицына и Мариничa. Я, например, не уверен, что они сегодня действуют по своим соображениям. Хотя, может быть, и не так. Дай Бог, чтобы не так. Я сегодня не понимаю поведения Гайдукевича, который на общем собрании претендентов заявил, что надо всем снять кандидатуры и оставить одного Лукашенко".

По мнению С.Домаша, Центризбирком не будет препятствовать при регистрации кандидатов, наоборот, власть "будет делать все, чтобы больше было зарегистрировано кандидатов". Чем больше кандидатов, тем лучше для власти, считает он. Что касается отношения к "пятерке", то, по мнению С.Домаша, в данном случае "все будет наоборот". "Возможно, будет сделано все, чтобы "пятерка" была зарегистрирована, чтобы поставить нас в условия соперничества, чтобы мы перегрызлись", — сказал он.

**БелаПАН**

# СТРОЕМ ОТДАТЬ ПОДПИСИ ЗА "БАТЬКУ"

**Спокойно, народ, Президент "не врот". И если сказал, что никакой особенной предвыборной кампании за свою кандидатуру проводить не будет, значит, так оно и будет. Да и зачем, когда все, что нужно, сделают верные люди. Ведь административный ресурс включен уже на полную катушку и работает. Как всегда, впрочем, без ведома и прямого указания на это Александра Григорьевича.**

Сбор подписей инициативными группами за действующего Президента облегчен до крайности. "Страх и заорганизованность" давят на людей, привязанных к властной вертикали. Свободная мысль запирается на семь замков людьми, воспитанными на "великих" примерах советской действительности. А кто-то подпишется, лишь бы чего не вышло плохого, лишь бы как все, лишь бы не отбиться от стада.

Вот и в армии сбор подписей за "батьку" идет без особых проблем. В 11 механизированной бригаде, не мудрствуя лукаво, собрали всех солдат срочной службы в клубе части и ... будьте добры — номер военного билета, дата рождения, автограф на память. Все равно ведь, за Лукашенко подписей будет достаточно, так поставьте и свою. Ну, что вам стоит.

Возможно, пока они в армии служат, грош цена той подписи. Но как бы после увольнения в запас не пришлось локти кусать и волосы на голове рвать из-за этой подписи, лишь бы отвязались. На "гражданке" ведь не по приказу жить нужно будет. Нашлось таких, кстати, не так уж и много — всего чуть больше ста человек. Думают, значит, все-таки, и что-то понимают.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ВЁСКА

## Поўная механізацыя

**Ужо некалькі гадоў запар у калгасе "Рассвет" Слонімскага раёна калгаснікі атрымліваюць не дзялкі, а гатовае сена.**

І сёлета цюкі-круглякі калгасны тэхнікай падвозяцца да падворкаў гаспадароў, якія трымаюць рагуль. Такім чынам праўленне і старшыня калгаса Васіль Серы праяўляюць сапраўдны клопат пра сваіх работнікаў. Таксама механічным спосабам апрацоўваюцца ў "Рассвете" і соткі бульбы. У калгасе часам узнікаюць перабоі з палівам, таму не заўсёды ўсё робіцца своечасова, і сярод людзей знаходзяцца незадаволеныя. Аднак большасць вяскоўцаў такі стан рэчаў цалкам задавальняе.

Трэба адзначыць, што сярод гаспадарак раёна механізацыя для людзей у "Рассвете" — гэта не правіла, а выключэнне з правілаў. У іншых калгасах раёна далі дзялку, паставілі калочкі — і рабі, што хочаш.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

НАВІНЫ

## "Памяць" вярнулася з Брэста

**Хор ветэранаў вайны і працы "Памяць", які існуе пры Слонімскім РДК, вярнуўся з Брэста, дзе праходзіў сёмы абласны фестываль творчасці ветэранаў вайны і працы.**

Як сказаў кіраўнік хору Казімір Дзэконскі, "Памяць" выканала на фестывалі некалькі патрыятычных песень. Гэта ўжо другі год запар хор наведвае Брэст. У бліжэйшы час 42 яго ўдзельнікі выступяць у падобным фестывалі ў Гродне.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Заболеваемость туберкулезом растет

**В Беларуси продолжается рост заболеваемости туберкулезом, от которого на планете ежегодно умирает более 3 миллионов человек. По словам главного эпидемиолога Министерства здравоохранения Беларуси Анатолия Кожемякина, среди инфекционных заболеваний туберкулез считается "убийцей номер один", причем сейчас он "стал намного коварнее и злее".**

За шесть месяцев текущего года 17 человек из Слонима и Слонимского района заболели туберкулезом, это на 2 человека меньше по сравнению с таким же периодом прошлого года.

В Беларуси, по данным на 1 января 2001 года, на учете стояли более 20 тысяч больных туберкулезом; ежегодно туберкулезом заболевают порядка 5 тысяч человек. В 1998 году в Беларуси от туберкулеза умерли 702 человека, в 1999 — 877, в 2000 году — 730 человек.

По словам главврача слонимского противотуберкулезного диспансера Юрия Запрягаева, чаще туберкулезом болеют мужчины (из 17 заболевших — 3 женщины). В основном возраст больных — от 40 до 59 лет.

76% заболеваний туберкулёзом, по словам Юрия Запрягаева, было выявлено профилактическим методом — флюорографией легких.

В этом году в Слониме и Слонимском районе от туберкулеза умерло шесть человек, а в прошлом — один.

**Маша ПЕТРОВА, Ольга ШИНКЕВИЧ**

ПРАШУ СЛОВА

# "ЧАГО ВАМ ХОЧАЦЦА, ПАНОВЕ?"

**Зусім нядаўна ў нашым горадзе на вуліцы Брэсцкая з'явіўся новы праваслаўны прыход, навіна аб якім хутка абляцела горад. Незвычайнасцю ва ўсёй гэтай справе было тое, што прыход адразу набыў рысы беларускай супольнасці. Яго заснавальнік і настаяцель айцец Іаан Майсейчык актывізаваў дзейнасць абшчыны ў напрамку стварэння вучэльні для дзяцей і моладзі, адраджэння беларускай спадчыны і пашырэння беларушчыны сярод вернікаў.**



Фота Віталя Гіля

Пропаведзь і духоўныя настаўленні ў прыходзе можна было пачуць амаль выключна па-беларуску, што абвяргала няслушнае сцвярджэнне, быццам беларуская мова непрыдатная для ўзвышаных рэчаў. Менавіта вышыня і прыгажосць слова, ахвярная аддана сць справе і шчырая дабрыня атмасферы прыцягнулі ў новую царкву мноства інтэлігенцыі, што дало ёй назву "Настаўніцкай".

Горад узбагаціўся нядзельнай школкай і сястрынцтвам міласэрнасці. На прыход звярнула ўвагу Беларускае Моладзевае Брацтва: падчас паломніцтва па Заходняй Беларусі. Вялікая група моладзі малілася тут за беларускі народ, дзялілася радасцю жыцця ў веры, вопытам і праблемамі беларускай рэчаіснасці. Прыход распаўсюдзіў сваю апеку над кадэцкімі класамі СШ№ 9, а таксама над хворымі і сіротамі, дзякуючы чаму па праву стаў прытулкам для старых і маладых, хворых і здаровых, шчаслівых і нешчаслівых...

І можна было б радавацца і карыстацць з таго, што нашы гараджане атрымалі магчымасць не толькі спасцігаць таямніцы Божыя, але і вяртацца да сваіх каранёў, піць жыватворную вільгаць з крыніц айчыннай гісторыі, прывучацца шанаваць свой край і матчыну мову, але... Аказалася, што гэта радасць не для ўсіх.

Аднойчы дзверы царквы адчыніліся, і ва ўтульную богаслужбовую залу ўвайшоў новы настаяцель айцец У. Камароў. Па-гаспадарску ёнададраў са сцяны словы песняра Беларусі Я. Купалы:

*Чаго вам хочацца, панове?*
*Які вас выклікаў прымус*
*Забіць трывогу аб той мове,*
*Якой азваўся Беларус?*
*Чаму вам дзіка яго мова?*
*Паверце, вашай ён не ўкраў,*
*А толькі ўспомніў свае слова,*
*З якім радзіўся, падрастаў.*

"Не положено," — коратка адрэзаў ён.

Далей пачалася прамыўка мазгоў, накшталт таго, што беларуская мова вядзе да расколу, што Беларусь — неаддзельная частка Расіі, што асноўная частка насельніцтва — рускія і таму не разумеюць (!) беларускай мовы, а Я.Купала — "Вообще неизвестно кто."

На айца Іаана паліліся рэкі бруду, як на "неблаганадзейнага." Стала зразумелым, што беларускасць, незалежніцкая пазіцыя дзяржаўнага ладу, прыродная беларуская талерантнасць, гістарычная і літаратурная спадчына беларускага народа з'яўляюцца "прыліпаламі" у царкоўным асяроддзі. Русіфікацыя і палітычныя (прыкрытыя ворсам духоўнасці) інтрыгі на карысць брацкай Расіі — гэта адна з галоўных мэтаў дзейнасці Рускай царквы. У выніку прыход быў пазбаўлены свайго настаяцеля (Іаана саслалі ў Шылавічы). А вернікі, расцярушаныя такім прыніжэннем, што ім цяжка ўявіць пра "царкоўны" характар гэтых падзей. Але на гэтым не ўсё.

Раз'юшаны "непакорствам" епіскап Гурый, а таксама яго "вернападданы" благачынны айцец Уладзімір Бобчык (Альбярцінская царква) развязалі страшэнны пераслед айца Іаана і яго бліжэйшага акружэння.

Сябра сям'і айцец Аляксандр Явараўскі быў выкліканы да епіскапа Гурыя, які сваім благаславеннем проста забараніў мець усялякія адносіны з айцом Іаанам, як езуітам, бэнээфаўцам і г.д.

Паколькі сумленне айца Аляксандра не дазволіла яму паступіцца дружбай, то гэта выклікала са свайго боку ўціск на яго. Пачалася санкцыянiраваная зверху "карэспандэнцыя" паклёпаў і распаўсюджанне чутак пра недобрасумленнасць айца Іаана і айца Аляксандра. Свайго апагея "кантроль за думамі" дасягнуў, калі айцец Уладзімір Бобчык пахваліўся сваімі сувязямі з КДБ і ... праслухоўваннем кватэры.

Р'яны епіскап Гурый забыўся пра свой службовы стан, ні аднаго разу не прыняў былых прыхаджанаў, якія сэрцам і душой сталі на пошук справядлівасці. Ліст ад вернікаў, у якім праўдзіва распавядалася пра падзеі, ён назваў "оскорбительным". Хіба можа праўда быць зневажальнай? Ці па хлусні і несправядлівасці дасягаюць царкоўных пасадаў?

Балюча казаць, што ў наш і без таго гаротны час, калі ашуканства апанавала амаль увесь свет, месца святое — Царква — апаганьваецца той жа няпраўдай. Пераслед, знявага, нецярпімасць, паклёпы і маральны ўціск — ці ж гэта тое, чым дыхае дух Божы, што жыве ў Царкве?..

Між тым усё гэта прымусіла айцоў Іаана і Аляксандра прасіць аб звальненні іх з прыходаў. Просьбы паспешліва былі задаволены. Амбіцыі епіскапа Гурыя і яго благачыннага, якія крывадушна прапаведуюць дараванне крыўдаў і любоў да ворагаў, рэалізаваліся.

Боль застаўся ў сэрцах шматлікіх вернікаў, якія не ў стане зразумець, як стала магчымым, што два адданыя Богу і людзям святары, поўныя маладосці, адукацыі і розуму, сталі ненавіснымі духоўным правадырам нашага народу. Як гэта нагадвае евангельскую гісторыю, калі фарысеі і кніжнікі з-за ганарыстасці страцілі духоўныя магчымасці адрозніваць дабро і зло і давялі яўрэйскі люд да адвяржэння Хрыста. Падобна на тое, што зло перамагло і тады, і цяпер.

Дакуль жа нам, беларусам, цярпець уладу хітрых баязліўцаў і верыць іх мудрагелістым заклікам адраджаць Расію, забываючыся пра свой край? Дакуль моўчкі будзем назіраць, як здзекуюцца і выганяюць беларускіх сыноў, неабыякавых да лёсу мінуўшчыны і будучыні Беларусі?

**Марыя БАБРОЎСКАЯ**

---

АСАБІСТАЕ МЕРКАВАННЕ

# МЫ ЎСЕ З ТРУШЧОБАЎ


Малюнак Яўгена ІВАНОВА

Проста дзіву даешся, якія нахабныя гэтыя мексіканцы са сваіх бясконцых серыялаў. Уяўляеце, сваё жыллё яны называюць трушчобамі. Калі мераць іхнімі меркамі, то ўсе мы з трушчобаў. За рэдкім выключэннем. Бачылі, якая ў іхніх кватэрах абстаноўка, якія канапы ды крэслы? Акурат такую канапу я нядаўна бачыла ў адным са сталічных валютных магазінаў. Яна там абгароджана вяровачкай, каб хто ненарокам не ўздумаў сесці. Людзі стаялі ля вяровачкі і пазіралі на канапу, як на музейны экспанат.

— Будзеце купляць? — з грэблівай усмешкай на твары спытаў асілак-назіральнік, у кожнай далоні якога магло б змясціцца па спальнаму вагону міжнароднага цягніка Масква-Дзюсельдорф.

— Заўтра, — кажу я. — Сёння кніжку чэкавую дома забылася.

Ён кіўнуў і выраўняў усмешку: усё было зразумела.

Не, сапраўдныя трушчобы гэта ў нас. Зайдзіце вечарам у рабочыя інтэрнаты: там на лесвіцах няма ніводнай лямпачкі. Расказвала мне знаёмая бабулька, якая познім вечарам хадзіла ў такі інтэрнат да ўнучкі.

— Спускаюся гэта я па лесвіцы, а насустрач — дзяцюк. Падхапіў мяне ў абдымкі і папёр назад.

— Ох, ты, мая Дзюймовачка, якая лёгенькая, — прамовіў з замілаваннем. Але калі ўзвалок на трэці паверх і пры цьмяным святле лямпачкі ўбачыў сваю памылку, сказаў:

— Божы дзьмухавец, таму і лёгенькая. А я думаў — Дзюймовачка.

Па абавязку службы мне часта даводзілася сустракацца з людзьмі, якія ў свой час па розных прычынах пакінулі Радзіму, а потым прыязджалі сюды ў госці. Здаралася, што некаторыя не былі ў сваім краі па некалькі дзесяцігоддзяў. Ах, як жа я іх асуджала! Гэта ж трэба: Радзіму пакінулі, калгасаў не стваралі, камунізм не будавалі, а цяпер прыперліся паглядзець на нашы поспехі ды пазайздросціць. Заўсёды была гатова кляйміць ганьбай гнілы капіталізм і ўсхваляць наш, калгасны лад жыцця.

Гэтыя людзі павінны былі вырцягнуць са сваёй душы нешта такое, што б кідала цень на іхняе цяперашняе жыццё і ўсхваляла наша. Але ім гэта цяжка ўдавалася. У асноўным — сум па радзіме, па сваяках. Не спяшаліся ганьбаваць свой капіталізм. Вядома ж, думала, зайздросцяць нам.

Прыязджаў аднойчы ў Дзятлава чалавек з Канады. Памятаю, я са сваёй настырнасцю ўсё спрабавала высветліць, які ў яго дом.

— Стары прадаў, купіў новы. Аддаў за яго сто тысяч даляраў.

Але маё ўяўленне ніяк не малявала дом за сто тысяч даляраў. Не разумела, і ўсё тут. Пачала з другога боку.

— Ну, вось ваша швагерка нядаўна атрымала новую добраўпарадкаваную кватэру. У вас такое жыллё ці лепшае?

— У нас такога жылля, як у швагеркі, наогул, няма, — пагрэбліва скрывіўся ён.

Памятаю, на адзін з хутароў прыехала з Германіі жанчына ў госці да старэйшай сястры. Некалі з родных мясцін вывезлі ўсю іхнюю сям'ю, бо бацька быў лесніком. А старэйшая сястра ўжо была замужам, і яе не чапалі. Мне сказалі, што госця пажылая. І калі да нас з суседняга пакоя выйшла стройная жанчына ў элегантным нагавічным гарнітуры, я была проста шакіравана.

Аднойчы я, што называецца, нарвалася на шчырага субяседніка. Тое, пра што гаварыў гэты чалавек, мяне жахнула. Ён сказаў, што мы безнадзейна адсталі ад цывілізаванага свету, што жывём бедна. Я была абурана і не хавала гэтага. А ён так спакойна сказаў:

— Гэта чыстая праўда...

І толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў, пабываўшы за мяжой, пераканалася, што гэта, сапраўды, была праўда...

Сумненні, роздум, спадзяванні... Цяпер наша краіна, кажуць, выходзіць на нейкі новы шлях. Павольі, няўпэўнена і ўсё ж выходзіць. Куды прывядзе ён? Невядома. Але хацелася б, каб да дабра і шчасця. Калі не нас, то хаця б нашых дзяцей і ўнукаў.

Пашлі нам, Божа, Мір, Шчасце і Праўду.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

---

ЗДАРЭННІ

## Загад выканалі, але папаліся

**Дырэктар Зэльвенскага раённага прадпрыемства бытавога абслугоўвання даў загад сваім работнікам завысіць кошт на паслугі, якія аказваюцца насельніцтву.**

Загад дырэктара хутка быў выкананы. Найперш цэны ўзраслі на выраб фотаздымкаў і рэалізацыю надмагільных агарodж. Але палепшыць фінансавы стан прадпрыемству не ўдалося, бо кантралюючыя службы хутка выявілі парушэнні цэнаўтварэння. Супраць кіраўніка ўзбуджана крымінальная справа.

## Патанулі

**На Зэльвеншчыне чарговымі ахвярамі вады сталі двое юнакоў.**

Аднаму з іх было 26 гадоў, другому — 27. Тапельцы былі ў нецвярозым стане.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## "Уплыла" лодка

**В Дятловский отдел милиции обратился 50-летний инженер из Могилёва.**

В ночное время с берега озера возле деревни Гезгалы у него были похищены двухместная палатка, надувная лодка "Нырок", спининг, насос и два свитера.

Милиция ищет вора.

**"МВ"**

# НОВАЯ ЛЬГОТА

**Конституционный суд Беларуси признал соответствующим Конституции, Жилищному кодексу и другим законодательным актам республики действующий порядок определения категорий граждан, имеющих право на получение льготных кредитов, субсидий и иных форм государственной поддержки.**

Как сообщили БелаПАН в Конституционном суде, такое решение было принято при рассмотрении вопроса отнесения граждан к категории малообеспеченных трудоспособных для получения государственной поддержки при строительстве (реконструкции) или приобретении жилого помещения. Основанием послужило обращение председателя правления АСБ "Беларусбанк" Надежды Ермаковой. В нем указывалось, что утвержденным правительством положением – об отнесении граждан к категории малообеспеченных трудоспособных для получения государственной поддержки при строительстве (реконструкции) или приобретении жилого помещения – к указанной категории отнесены граждане, обладающие способностью к осуществлению трудовой деятельности. В связи с этим, льготные кредиты предоставляются пенсионерам в возрасте 70-80 и более лет, которые из-за высокой стоимости жилья не в состоянии их возвратить. Кроме того, для получения кредитов граждане обязаны самостоятельно производить оценку своего имущества, что для них затруднительно.

Рассмотрев обращение и проанализировав законодательство, Конституционный суд пришел к выводу, что правительству обоснованно делегированы полномочия определения граждан, нуждающихся в предоставлении льготных кредитов, субсидий для строительства или приобретения жилья. В то же время Конституционный суд посчитал, что возложение на граждан несвойственной им обязанности самостоятельно производить оценку имущества для получения льготного кредита противоречит законодательству. Такую оценку должны производить уполномоченные компетентные органы, чтобы справедливо и объективно решить вопрос о праве граждан на получение льготных кредитов, предоставляемых государством. Правительству предложено проанализировать исполнение названного положения в целях своевременного погашения гражданами полученных льготных кредитов, а при необходимости – принять дополнительные меры по исполнению ими взятых на себя обязательств.

**Алексей ОРЕШКО**

# НАС РАСКОЛОЛИ ПОПОЛАМ

**Белорусское общество "по отношению к Александру Лукашенко расколото практически пополам": 48 процентов избирателей удовлетворены тем, как Лукашенко управляет страной, и такое же количество — не удовлетворены.**

Об этом сообщил заместитель директора Независимого института социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ) Александр Соснов 11 июля на брифинге республиканского общественного объединения "Белорусские фабрики мысли" (БФМ).

Комментируя результаты апрельского и июньского национальных зондажей общественного мнения белорусских избирателей, Александр Соснов, который в начале президентского правления Лукашенко занимал должность министра труда, отметил, что рейтинг Лукашенко уменьшился с 37 процентов в апреле до 36 процентов в июне. Одновременно увеличивается количество людей, желающих принять участие в президентских выборах: с 70 процентов в апреле до 87 процентов в июне.

На брифинге обсуждалась социально-экономическая и политическая ситуация в Беларуси. Так, президент аналитического центра "Стратегия" кандидат экономических наук Леонид Заико отметил, что в республике сложились предпосылки к депрессии, 40 процентов предприятий являются убыточными.

**БелаПАН**

# ТВОРЧЕСКИЙ ЛЮД ОСВОБОЖДЕН ОТ НАЛОГОВ

**Ассоциация общественных объединений "Белорусская конфедерация творческих союзов" и творческие союзы Беларуси указом президента №374, который вступил в силу 9 июля, освобождены от уплаты налогов на прибыль и на добавленную стоимость.**

Помимо ассоциации "Белорусская конфедерация творческих союзов" в перечень общественных объединений, освобождаемых от уплаты налогов на прибыль и на добавленную стоимость, вошли Белорусский союз архитекторов, Белорусский союз дизайнеров, Белорусский союз журналистов, Белорусский союз кинематографистов, Белорусский авторский фонд композиторов, Белорусский союз художников, Белорусский фонд культуры, – всего 15 общественных объединений.

Как отмечается в официальном комментарии к указу, сегодня все творческие союзы платят налоги на прибыль, на добавленную стоимость, на недвижимость, чрезвычайный налог, экологический и транспортный сборы, местные налоги, сборы и прочие. Освобождение от налогов на прибыль и добавленную стоимость позволит улучшить финансовое состояние творческих союзов и направить высвобождившиеся средства на развитие их творческой деятельности и укрепление материальной базы. Стоит отметить, что с 1940 года творческие союзы не облагались налогами. Однако, в 1992 году они были приравнены по способу начисления налогов к производственной сфере, что привело к негативным последствиям.

**Алексей ОРЕШКО**

# «ИМУЩЕСТВО» ОЦЕНИЛИ

**Совет Министров Беларуси принял постановление, в соответствии с которым стоимость одного неиспользованного именного приватизационного чека (ИПЧ) "Имущество" определена в размере 3.000 белорусских рублей.**

Переоценка стоимости ИПЧ произведена в соответствии с законом "Об именных приватизационных чеках "Имущество", исходя из результатов переоценки госимущества по состоянию на 1 января этого года.

По данным Министерства по управлению госимуществом и приватизации, приватизационные чеки были выданы почти 5 миллионам граждан Беларуси. Общее количество их составило 427 миллионов. Почти половина уже обменена на акции приватизированных предприятий или специализированных инвестфондов, еще около 220 миллионов чеков остаются на руках у населения. Переоценка стоимости касается только неиспользованных чеков.

**БелаПАН**

# ДОМАШ. СИЛЬНАЯ ЛИНИЯ ЖИЗНИ

**(Продолжение. Начало на 1 стр.)**

**— Иногда кажется, что страна зашла в глухой тупик. Видите ли Вы пути выхода к свету?**

— У меня есть абсолютно надежная программа вывода Беларуси из кризиса, подготовленная лучшими специалистами в области экономики. В ней подробно, по месяцам расписано, что нужно делать. За основу взят опыт Польши и других соседних стран, которые начинали с одинакового с нами уровня жизни, но за последние годы успешно осуществили реформы и достигли уровня средней зарплаты в 500 долларов.

Я не собираюсь вступать в заочное соревнование по поводу обещаний о размерах средней зарплаты. Хочу лишь заметить, что поставленная нынешними властями планка, обещающая 250 долларов через пять лет, при грамотной экономической политике может быть достигнута уже в следующем году.




Нужно ликвидировать все препятствия, мешающие нормальному развитию предпринимательства. В первую очередь – ввести заявительный принцип для открытия собственного дела, создания юридической базы. Если, например, человек хочет на дому ремонтировать обувь, то он не должен обивать пороги чиновничьих кабинетов и просить разрешения.

Нужно сократить количество налогов примерно в три раза, а размер налогов – в два раза. Опыт России хорошо показал, что резкое сокращение размера налогов ведет к существенному росту налоговых поступлений.

Нужно создать условия, когда белорусские предприятия и предприниматели не будут вывозить деньги за рубеж, а станут вкладывать их в нашу экономику. Тогда придут и иностранные инвестиции.

Нужно снять запреты на вывоз товаров за пределы Беларуси.

Нужно сократить государственные расходы за счет сокращения управленческого аппарата (в первую очередь, ликвидировать идеологическую вертикаль), многочисленной президентской охраны, отказа от ненужных и колоссальных расходов на проведение парадов, "дожинок" и др.

И, прежде всего, необходимо предпринять самые простые меры, не требующие никаких денежных затрат или времени на подготовку законов. Нужно упразднить все запреты, мешающие людям самим ежедневно зарабатывать деньги для себя и для своих родных.

Короче говоря, доходы будут увеличены за счет стимулирования экономической деятельности, увеличения количества хозяйственных субъектов, платящих налоги.

**— Широко бытует мнение, что перед выборами политики много обещают, расхваливают свои достоинства, но когда приходят к власти, то начинают воровать и злоупотреблять своим положением. Что Вы можете сказать на этот счет?**

— К сожалению, это правда. Такие политики есть, и за примерами ходить далеко не надо. Кто-то может поклясться, что он не такой, и при этом положить руку на сердце, как это делает известный нам «товарищ». Одни им поверят, другие – нет.

Воровство и безнаказанность чиновников прекрасно существуют лишь в системе государственного беззакония. Если властитель сам себе законодатель, исполнитель и судья, то кто его может поставить на место? Поэтому я предлагаю принципиально иной подход к решению этой проблемы. Нужно создавать такую систему государственного управления, при которой воровать стало бы весьма и весьма проблематично. Это разделение законодательной, исполнительной и судебной властей. Это свобода слова в соответствии с конституционными принципами и независимость средств массовой информации от государственных чиновников. Это сокращение количества запретов в экономической сфере, которые провоцируют взяточничество. Это неуклонное соблюдение всех гражданских прав и свобод. Жесткие моральные требования к власть имущим должны быть закреплены в профессиональных кодексах.

Нужно реформировать саму систему власти, сделать прозрачными и демократичными выборы. Словом, это новый для нашей страны подход к решению старых проблем, который, тем не менее, уже показал свою эффективность в других странах. Не нужно изобретать велосипед. Все, что нам нужно для решения этой проблемы, уже есть в мировом опыте.

**— Семен Николаевич, есть еще одно проклятие нашего общества — массовое пьянство. Народ просто спивается. Как решить эту проблему?**

— Мне недавно рассказали об одном очень талантливом человеке, который часто и регулярно напивался до безобразия. Его теща – мудрая женщина – подарила ему «Запорожец». А человек мечтал об автомобиле. И когда мечта сбылась – он перестал пить.

Пьянство, как явление, имеет много составляющих. Но само по себе оно сигнализирует о неблагополучии общества. И прежде всего – об экономическом неблагополучии. Если человек не имеет возможности развить свои таланты и способности, если у него нет никакой светлой жизненной перспективы, если он унижен безработицей или подачками, называемыми зарплатой, если он не в силах обеспечить свою семью, если он оказался в кругу безысходности, страха или разочарования, тогда он заглушает свои проблемы спиртным. И совершенно естественно, что в Беларуси алкоголизм стал особенно энергично расцветать в последние годы, характерные некомпетентным и авторитарным руководством экономикой, предельно сузившей возможности людей во всех сферах, кроме полицейской.

Хороший хозяин, заботливый семьянин, обеспеченный человек никогда не станет алкоголиком. Алкоголиками, преимущественно, становятся безработные, бедные, бездомные, бессемейные люди. А таких сейчас очень и очень много.

**— Занятия спортом с недавнего времени стали модными у политиков. Вы какой вид спорта предпочитаете?**

— Заниматься спортом надо не для моды и не для показухи, а для собственного здоровья. Всему свое место и время. Нелепо бегать на лыжах по асфальту только потому, что ты считаешь себя хорошим лыжником.

Я занимался многими видами спорта: бегом, карате, игровыми видами. Сейчас занимаюсь атлетической гимнастикой. Но наибольшие успехи были у меня в боксе, где добился уровня кандидата в мастера спорта. Навыки не растерял и всегда готов постоять за себя и своих близких в любой ситуации.

**Алесь ДУБРОВИЧ**

# ЛЕТНЯЯ ВАНДРОЎКА



Фотажурналіст Сяргей Плыткевіч

(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.)

Дарэчы, некалькі месяцаў назад у дзяржаўным выдавецтве "Беларусь" выйшаў з друку цудоўны каляровы фотаальбом Сяргея Плыткевіча "Мая Беларусь". Сюды ўвайшлі фотаздымкі майстра, на якіх адлюстравана наша краіна з багатым мінулым і сучасным, яе людзьмі і прыродай. Сам Сяргей па дарозе сказаў:

– Я аб'ехаў Беларусь удоўж і ўпоперак, выбіраў самыя запаведныя мясціны. Шлях, у асноўным, пралягаў у глыбінку. Мяне цікавіў лёс старых сядзіб, мястэчак, хутароў, гарадоў.

А вось на Слонімшчыне і Зэльвеншчыне я бываў толькі праездам. Праўда, у альбом славутая Сынковіцкая царква ўсё ж увайшла. Але адна справа – убачыць прыгажосць самому і зусім іншая – паказаць яе сябрам і знаёмым. Таму са мной заўсёды быў фотаапарат. Бо мастацкае фота – цудоўны сродак, які дапамагае паўней адчуць веліч мураваных палацаў, святых храмаў, старажытных вежаў і званіц, асэнсаваць нашу культурную і гістарычную спадчыну...

Вандроўка з Сяргеем Плыткевічам пачалася са слонімскіх вуліц і завулкаў, дзе яшчэ захаваліся архітэктурныя старыя помнікі і пабудовы. Пасля мы завіталі ў Альбярцін, дзе фотамайстру Плыткевічу і фотакарэспандэнту Гілю было што здымаць. Альбярцін узнік у першай палове XIX стагоддзя, як сядзіба маршалка шляхты Слонімскага павета В.Пуслоўскага (1762 – 1833). У склад сядзібы ўваходзілі двухпавярховы мураваны палац, гаспадарскія і службовыя будынкі, пейзажны парк. У палацы размяшчалася багатая калекцыя твораў мастацтва. Побач з сядзібай узніклі цагельня, млын і лесапільня, дывановая мануфактура, конная і шоўкакруцільная фабрыкі, чыгуналіцейны і электралямпавы заводы, запалкавая фабрыка "Шчара", завод цвікоў, электрастанцыя і г.д. З дзесяцігоддзямі шмат каштоўнага гэты мікрараён Слоніма страціў, але нешта нашчадкам і засталося. Найперш, гэта парк, канюшня і асабняк Пуслоўскіх.

З Альбярціна мы паехалі ў Шылавічы, пасля – у Жыровічы. Якраз заходзіла сонца, і ў гэты момант Жыровічы здаваліся казачна-чарадзейнымі. Кожны селянін займаўся сваімі справамі: адны сядзелі каля хат на лаўках, другія корпаліся на агародах, а іншыя ішлі па ваду да жыровіцкай крыніцы.



Юльян Грасевіч

На другі дзень мы паехалі ў вёску Кракотка, якую Уладзімір Караткевіч назваў самаю прыгожаю вёскаю ў свеце. Шлях у гэтае знакамітае месца на Слонімшчыне ляжаў праз Пасінічы, Юхнавічы і Сялявічы. Яшчэ ў 1927 годзе ў Кракотцы адкрылася першая бібліятэка імя Янкі Купалы. У пасляваенныя гады сюды некалькі разоў прыязджала жонка Янкі Купалы – цёця Уладзя (Уладзіслава Францаўна). З ёй шчыра сябраваў былы дырэктар бібліятэкі Аляксандр Жыткевіч. З Кракоткі родам літаратуразнавец Янка Саламевіч, побач, у Вецявічах жыве доктар філалагічных навук Мікола Арочка, а ў суседняй Рудаўцы прайшло дзяцінства паэта Валянціна Таўлая.

Найперш мы заехалі ў лясок, дзе знаходзіцца кракоцкая крыніца, вада якой, як кажуць мясцовыя жыхары, лечыць вочы і страўнікавыя хваробы. Тут было шмат людзей, якія чэрпалі са студні гаючую і смачную ваду. З адной бабулькай мы пазнаёміліся. Завуць яе Кацярына Фамінічна Пяшэвіч. Гэта гаваркая і сціплая жанчынка жыве ў Кракотцы толькі два гады, а прыехала сюды з Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Сумуе па сваёй радзіме, але і тут ёй падабаецца, бо побач, як яна кажа, жывуць шчырыя людзі.

Якраз быў Ян, таму мясцовы бацюшка асвяціў крыніцу, і людзі вёдрамі бралі ваду. Два вядры вады панесла дамоў і Кацярына Фамінічна.

З крыніцы мы паехалі ў царкаўку, а пасля – у Малую Кракотку да старэйшага жыхара вёскі Юльяна Іванавіча Грасевіча, якому нядаўна споўнілася 97 гадоў. Трэба было бачыць, з якой радасцю сустрэў журналістаў гэты цікавы і таленавіты чалавек. Ён вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, яго настаўнікамі былі Ігнат Дварчанін і Радаслаў Астроўскі, ён сябраваў з Валянцінам Таўлаем, Анатолем Іверсам, Антонам Валынчыкам, Максімам Бурсевічам. Цэлая эпоха звязана з гэтым цудоўным чалавекам. Юльян Іванавіч – добры мастак-самарodak, музыкант, спявак. Ён іграў нам на гітары, спяваў на беларускай, польскай, нямецкай і ўкраінскай мовах. За беларускасць у 1932-1936 гадах сядзеў у польскіх турмах. А яшчэ, як прызнаўся спадар Грасевіч, ён не выкурыў у жыцці ніводнай папяросы, а таксама ніколі не ўжываў спіртных напояў, але шмат грошай траціў на фарбы, бо вельмі люблю маляваць.

На развітанне Юльян Грасевіч падараваў нам некалькі сваіх карцін.

З Кракоткі наша вандроўка працягвалася ў Азярніцу, а з Азярніцы – на Бяздоннае возера. Вакол яго загаралі хлопцы і дзяўчаты, шмат мужчын вудзілі рыбу. Зрабілі некалькі фотаздымкаў, і наша "хонда" перасекла мяжу Слонімшчыны і трапіла ў вёску Кашалі Зэльвенскага раёна. За Кашалямі пачынаецца вёска Івашкавічы. Здалёк, на старажытным каменным могільніку XVII стагоддзя, узвышаюцца развaліны храма, якія напамінаюць Навагрудскі замак. На адной з разбураных сцен буслы зрабілі гняздо. А Сяргей Плыткевіч дадаў: "У кнізе "Мая Беларусь" ужо ёсць падобны здымак, які быў зроблены ў адной з вёсак Мінскай вобласці. Там таксама сям'я буслоў пабудавала гняздо над сімвалам хрысціянскай веры – храмавым крыжам. Як вядома, белыя буслы – сімвал нашай краіны. На мой погляд, іх суседства – знак таго, што з Боскай дапамогай у Беларусі будзе светлая будучыня."

З фотажурналістам можна пагадзіцца. Толькі калі наступіць гэтая светлая будучыня? Праз два месяцы, праз пяць гадоў, ці праз цэлае стагоддзе? Розніца ёсць. Гэтай светлай будучыні чакаюць і жыхары Івашкавіч. Некаторыя з іх жывуць яшчэ ў бараках, якія засталіся ў спадчыну ад паноў Астрамецкіх. А сама вёска Івашкавічы вядома яшчэ з пачатку XVII стагоддзя як маёнтак навагрудскага кашталяна Аляксандра Палубенскага. Пазней ёй валодалі Сапегі, потым браты Шэметы, Глушынскія, Стравінскія, Жалкоўскія і іншыя.



Руіны храма ў вёсцы Івашкавічы Зэльвенскага раёна

Праз некалькі хвілін пасля Івашкавіч, мы ехалі па беразе Зэльвенскага вадасховішча, якое было створана ў 1983 годзе. Агульная яго плошча складае 12 квадратных кіламетраў, найбольшая глыбіня – 7,5 метраў. Тут і праваслаўныя і каталіцкія святы збіраецца шмат народу. На дзярэчынскіх могілках знаходзяцца магілы партызана П.Булака, генерала 1812 года Е. Гампера, а ў цэнтры вёскі – помнік маршалу І. Чарняхоўскаму.

Пра Дзярэчын і яго людзей можна напісаць шмат. Сёе-тое ўжо зроблена. Найперш паруліўся пра гэта беларускі паэт і журналіст Міхась Скобла, які два гады назад выдаў гістарычны нарыс "Дзярэчынскі дырыюш". Міхась Скобла закончыў Дзярэчынскую сярэднюю школу, а яго любімым настаўнікам быў Пятро Мікалаевіч Марціноўскі. Гэта паважаны чалавек, дзякаваць Богу, жыве ў Дзярэчыне і зараз, і мы вырашылі заехаць і да яго.



Былая аўтастанцыя ў Дзярэчыне

Сардэчна вітаючы гасцей, Пятро Мікалаевіч у цяньку пад парэчкамі накрыў багаты стол з самадзейным віном "Марціні" (ад слова Марціноўскі), за якім доўга ішла гаворка пра наша жыццё-быццё.

Развітваючыся з Пятром Мікалаевічам, Сяргей Плыткевіч падараваў яму свой фотаальбом, а гаспадар запрасіў нас усіх восенню да сябе па вінаград.

Вяртаючыся назад у Слонім, я яшчэ раз перагартаў альбом Сяргея Плыткевіча. Ва ўступным слове да яго прачытаў: "Кожны куточак роднай Беларусі мае сваю адметнасць і непаўторнасць." І, сапраўды, у гэтым упэўнішся толькі тады, калі падарожнічаеш па роднай бацькоўскай зямлі...

водзіць свой вольны час большасць жыхароў Зэльвы і суседніх з ёй вёсак. Да адной з іх, бадай ці не самай вялікай і багатай на гісторыю, Дзярэчын, рукой падаць – нейкіх 12 кіламетраў. Спыніліся мы ў цэнтры вёскі, каля былой аўтастанцыі. У савецкія часы праз Дзярэчын у суткі праходзілі 54 аўтобусы, якія курсіравалі ў Гродна, Мінск, Зэльву, Слонім і ў іншыя гарады. Цяпер дзярэчынцы толькі пра гэта ўспамінаюць. Ды і будынкі аўтастанцыі і былой аптэкі апусцелі. У іх мясцовыя бамжы, п'яніцы і беспрацоўныя зрабілі прытон. Ці не адсюль пачынаюцца ў Дзярэчыне зладзействы і злачынствы?

Былы малы Версаль, так некалі называлі Дзярэчын, прыбаўлівае вока Спаса-Прэабражэнскай царквой (XIX ст.) і касцёлам Ушэсця (XX ст.), куды на

Сяргей ЧЫГРЫН



Дарога да Дзярэчынскага касцёла

Газета Слонімская
19 — 25 ліпеня 2001г. №29 (215)

Юрка КАРПАЧ

### Юр'еў дзень

*"...Сёння Юр'я,*
*а бацьку майго звалі*
*Юрко.*
*Так што, даражэнькая,*
*пляшку стаў..."*
*І маці ставіла.*
*Я ж ніколі не бачыў*
*дзеда Юрку,*
*і нават магіла яго*
*не захавалася.*
*Дзед памёр,*
*калі бацьку*
*было дзесяць год,*
*і ў той год ён*
*у Віхновічах*
*пасвіў кароў.*
*Пра гэта мы ўзгадваем*
*з маці*
*на Юр'еў дзень.*
*А бацька каторы ўжо год*
*ходзіць у пастухах*
*у пана Бога*
*і даўно забыўся*
*на сваю пляшку.*

### У стыні дажджу

*Шэрым мяшком*
*сярод лета*
*Стала цяжарнай зямля.*
*На небе нябачна прасвету*
*З раніцы і да цямна.*
*Свет*
*як патух без святла,*
*Вільгаць пачуццяў гняце.*
*Тут маёй мілай няма.*
*Дзе мне шукаць яе, дзе?*
*Сцены дамоў і кватэр,*
*Сцены кантор і карчмы,*
*Вуліц дажджлівы бар'ер*
*І ўсюды —*
*абрысы турмы.*
*Гэта Радзіма мая*
*Канае ва ўласных слязах,*
*А мне падалося, што я*
*Павіс на дажджу*
*ланцугах.*

## На вясновы матыў

**Вальс**

**Музыка У.К.САРОКІНА, словы І.М.ЦІМАФЕЙЧЫКА**

Тэмп вальса

*Ўжо сумёты расталі,*
*Ручаі адгудзелі...*
*Птушак з выраю стаі,*
*Каб жыццё лепшым стала,*
*Дораць з высей надзею.*
*Дораць радасць – Надзею!*

**Прыпеў**:
*На вясновы матыў*
*Вольны вальс напішы,*
*І на гэты матыў*
*Наіграй-насвішчы.*
*Хай гуляе матыў*
*Гулкім звонам літым!*
*Вольны Дух не астыў:*
*Ён Жывы, Ён святы!*
*Ён Жывы і Святы!*
*Гэй! Гуляй жа, матыў,*
*Перазвонам літым!*
*Гул-набат не астыў:*
*Ён Жывы, Ён Святы.*
*Вольны вальс,*
*Наш, Святы!*

*І ляцяць яны клінам,*
*І гукаюць-курлычуць...*
*Так прыемна і звыкла,*
*Каб Надзея не знікла,*
*У шлях збавення*
*Нас клічуць.*
*У шлях Збавення*
*Нас клічуць!*

**Прыпеў**.

*Водар зорачак-кветак*
*Запалоніць наўколле...*
*Гулкім стане ўзлесак*
*Ад той радаснай весткі:*
*"Беларусь мая —*
*Вольная!*
*Край любімы мой —*
*Вольны!"*

**Прыпеў**.

Міхась ЛІТВІНЧЫК

### Сваё ў двух словах

*Бацькава зайсёды растранжырыць дзецям лягчэй, чым сваё набыць.*

***

*Той, хто хоць раз схлусіў, зрабіць гэта не апошні раз мусіў.*

***

*Ад чалавека не залежыць, якім ён родзіцца, а будзе залежаць ад яго, як ён да людзей будзе адносіцца.*

***

*Здольнасці чалавеку даюцца пры нараджэнні, а прымяняюцца ў жыцці.*

***

*Нічога не шкадуй для ведаў набыцця, бо без іх не пражыць жыцця.*

***

*Выдатныя людзі ўсе выдатныя па-свойму, а ўсё п'яніцы агідныя аднолькава.*

***

*Калі ідуць машыны, дык яны кідаюцца то ў адзін, то ў другі бок, быццам усе шаферы – п'яныя. Але гэта зусім не так, бо яны на слонімскіх вуліцах так аб'язджаюць ямы.*

***

*Можа быць не прыгодны і чалавек родны, але мова родная зайсёды прыгодная.*

***

*Тыя прымаўкі і прыказкі зайсёды будуць чагосьці вартыя, як яны сваёю праўдзівасцю і справядлівасцю вельмі ўпартыя.*

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 27, 28)**

**Фантастычна-містычнае апавяданне**



Малюнак Яўгена ІВАНОВА

# Слова

**10.**

Акунёў злез з веласіпеда і правёў Івана вачыма, уголас прагаварыўшы:

— Ледзь не збіў мяне паганы дырэктар. Я яшчэ прыпомню табе!

— Эдуардавіч, не мяне шукаеш? — нечакана пачулася ззаду.

Акунёў павярнуўся і ўбачыў перад сабою чэрап, які падскокваў і крыўляўся, як жывы.

Участковы расшпіліў кабуру і намацаў рукаятку пісталета.

— Эдуардавіч, Слова хочаш знішчыць? — выскаліў зубы чэрап.

— Усіх тут знішчу, маць вашу так! — вылаяўся ўчастковы, дастаючы з кабуры пісталет.

Чэрап падскокваў і з сілай стукаў Акунёва ў грудзі. Ён выпусціў пісталет, упаў на спіну і раскінуў рукі, заграбаючы пясок.

— Навалач! — з пагрозай прамовіў чэрап.

**11.**

Каля хаты Івана чакаў Сымон. Узяўшыся за вобруць, ён спыніў Гнедага і выгаварыў Івану:

— Мітрафанавіч, каня зусім запарыў!

— Я не хацеў! — сказаў Іван і ўзяўся за галаву.

Мазолістаю рукою Сымон пагладзіў Гнедага па ілбе.

— Мітрафанавіч, па вёсцы нядаўна чэрап, падскокваючы, бегаў і людзям прапаноўваў, каб Слова ўзялі. Людзі пазачыняліся і вокны пазавешвалі. А мой унучак не спалохаўся. Падбег да акна і вершык стаў расказваць:

*Ты ж не згаснеш,*
*ясная зараначка,*
*Ты яшчэ асвеціш родны край.*
*Беларусь мая! Краіна-браначка!*
*Ўстань,*
*свабодны шлях сабе шукай.*

Мітрафанавіч, гэты вершык у тваёй школе ён вывучыў.

— Не трэба! Не трэба! — замахаў рукамі Іван і, саскочыўшы з воза, таропка пакрочыў у хату.

**12.**

— Лекар нядаўна тэлефанаваў, казаў, што нашаму Паўліку лепей, — паведаміла Івану жонка.

У Івана тарганулася левае вока. Усё-такі ён вельмі перахваляваўся ў гэты дзень.

— У вёсцы тэлефоны не робяць.

— Да пайдня не рабілі, а пасля пайдня ўключылі. У нас часта так бывае, — усміхнулася жонка.

— Часта, — уздыхнуў Іван і сеў каля стала на крэсла. — Марына, чэрап па дарозе бегае. Чула?

— Чула. Людзям Слова прапаноўвае, — спахмурнела Марына.

На стале зазваніў тэлефон. Іван уздрыгнуў, а Марына спакойна сказала:

— Мабыць, зноў лекар тэлефануе. Трубку паднімі.

Іван працягнуў руку, каб падняць трубку, але не змог. Рука застыла ў паветры.

— Марыначка, можа чэрап да нас звоніць?

— Дурань! — адказала жонка.

Іван падняў тэлефонную трубку і паднёс да вуха.

— Ало! Вас слухае дырэктар Нарастаўіцкай сярэдняй школы Іван Мітрафанавіч Вярнідуб.

— Да нас дайшлі звесткі, што па вашай вёсцы ходзіць чэрап і людзям слова прапаноўвае, — пачуўся ў трубцы знаёмы голас Указа.

У Івана пабялеў твар і пачырванелі вушы.

— Вы тады не знішчылі Слова? Я так разумею?

— Знішчылі. У яме разам з касцямі закапалі.

Твар у Марыны выцягнуўся, стаў прадаўгаваты.

— Хто тэлефануе?

Іван выцягнуўся, як чарвяк, і патрос пальцам на жонку. Маўляў, маўчы, не да цябе цяпер.

— З якімі касцямі? — халодны голас Указа кідаў у пот.

— Са звычайнымі, з чалавечымі, — выдыхнуў Іван.

— Я сам да вас прыеду, на месцы разбяруся, — няласкава сказаў Указ.

Іван паклаў трубку і плюхнуўся на крэсла. Спіна ў яго ўзмакрэла, да потных плячэй прыліпла кашуля.

— Хто? — паўтарыла Марына.

— Указ. Ён разбярэцца.

Марына балюча ўшчыкнула мужа за плячо.

— Казала табе: выкінь Слова. Дурань!

Іван захацеў агрызнуцца, але на стале зноў зазваніў телефон.

Іван, як тапелец, зірнуў на жонку.

— Ты паднімеш?

Марына пакруціла галавою.

— Ты! Ты дырэктар.

Іван усхліпнуў і падняў тэлефонную трубку.

— Ало!

— Татка, гэта я, Паўлік! — пачуўся з трубкі бадзёры голас сына.

"Паўлік ачуняў. Ён не злуецца на мяне, таткам называе,"— з радасцю падумаў Іван і гукнуў у трубку:

— Сынок, па нашай вёсцы жывы чэрап ходзіць і людзям Слова прапаноўвае!

— А людзі?

— Людзі як людзі. У хатах пазачыняліся.

Зыркнуўшы на Івана, жонка пакруціла пальцам каля скроні.

— Паўлік, папраўляйся, — панура сказаў Іван і паклаў тэлефонную трубку.

— Дурань і ёсць дурань! — паківала галавою Марына. — Навошта Паўліку пра чэрап і Слова сказаў? Ён сёння ж з бальніцы ўцячэ, каб у чэрапа Слова ўзяць.

**13.**

Марына не памылілася. Паўлік уцёк з бальніцы. Ён сядзеў на пагорку і размаўляў з чэрапам. Побач ляжала Слова ў даўняй рамцы пад патрэсканым шклом.

— Ты калісьці быў воем і загінуў, бароначы Бацькаўшчыну? — запытаўся Паўлік.

— На жаль, загінуў, — адказаў чэрап.

— З кім вы тады ваявалі?

— З акупантамі. Паўлік, ты зберажэш Слова?

— Зберагу. Ніякаму Указу яго не аддам. Хочаш, я верш прачытаю, які лекар у бальніцы мне расказаў?

— Прачытай, — усміхнуўся хлапчуку чэрап.

Паўлік прыўстаў і, гледзячы ўдалечынь, прачытаў:

*Кінь вечны плач свой*
*аб старонцы!*
*Няўжо жа цёмнай ноччу ты*
*Не бачыш,*
*што глядзіцца сонца*
*Ў люстэрка – месяц залаты?*

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

Газета Слонімская
19 — 25 ліпеня 2001г. №29 (215)

ПЕРШАЯ ЛІГА

# МОМАНТАЎ ХАПІЛА Б І НА ТРЫ ГУЛЬНІ

**Камунальнік — Нёман (Масты), 3 – 1**

Слонім. 15 ліпеня. Стадыён "Дынама".
2 000 гледачоў. 30 градусаў па Цэльсію.
Суддзя: Казімір Знайдзінскі (Гродна).
Камунальнік: Бекіш, Ясінскі (46, Чэпкі), Капельян, В.Дзегіль (89, Горбач), Кірыленка, Астапчык, Вярбіцкі, Варанцоў, Баль, Місюк (64, Цішчанка), Аначэнка.
Галы: 9, 88, Вярбіцкі; 69, Капельян (з пенальці) (Камунальнік).
3, Давідовіч (з пенальці) (Нёман).
Папярэджанні: 10, Давідовіч (затрымка саперніка рукамі); 45, Дзегіль (небяспечнае нападзенне на саперніка).
Выдаленні: 15, Давідовіч (грубая гульня).


*З перамогі "Камунальнік" распачаў сезон гульнёй супраць жодзінскага "Тарпеда", перамогамі завяршае першы круг (У гульні Аляксей Баль)*

Фота Віталя Гіля

У мінулую нядзелю "Камунальнік" вярнуў слонімскім футбольным балельшчыкам надзею. Надзею на тое, што ў Слоніме ўсё ж такі будзе футбол, і футбол прыгожы, добрай якасці і выніковы. Дзеля гэтага нашым ігракам прыйшлося расчараваць мастоўскіх футбалістаў.

А сцэнарый матчу складваўся вельмі цікава і спачатку не на карысць слонімцаў. Распачаўшы гульню з атак, "Камунальнік" ужо на другой хвіліне здолеў стварыць небяспечны момант ля варотаў "Нёмана" і адразу ж прапусціў контрвыпад. У сярэдзіне поля памыліўся пры перадачы Кірыленку, мяч падхапіў нападаючы гасцей Кухлей і прайшоў да нашай штрафной пляцоўкі, дзе яго і "палажылі" на газон. Бясспрэчны пенальці рэалізаваў капітан мастаўчан Давідовіч — 0:1.

Гэты лік трымаўся не доўга. На 9-й хвіліне памыліліся абаронцы "Нёмана". Яны пабудаваліся ў лінію, і слонімцы адным пасам аставілі іх па-за гульнёй, вывеўшы Алега Вярбіцкага сам на сам з варатаром гасцей. Нават адчайны выхад варатара на перахоп не замінуў Алегу перакінуць мяч у пустыя ўжо вароты.

Нічыйны лік не задавальняў абедзве каманды, але больш асэнсавана гульня атрымлівалася ў "Камунальніка". Госці ж гулялі груба і на 15-й хвіліне былі пакараны за гэта. У чарговы раз парушыў правілы Давідовіч, збіўшы ўдарам ззаду па нагах Кірыленка, і быў выдалены з поля.

Застаўшыся ў меншасці, мастаўчане пакрыху адышлі ў глухую абарону, аддаўшы ініцыятыву гаспадарам поля. Актыўныя дзеянні Капельяна і Дзегіля на правым фланзе і Астапчыка на левым раз-пораз разрывалі абарону гасцей. Ясінскі адзначыўся праходам да штрафной і пасам з глыбіні поля на Вярбіцкага. У высокім скачку Алег спрабаваў апярэдзіць варатара "Нёмана" і перакінуць праз яго мяч, але прабіў вышэй варот.

На працягу першага тайма магчымасць паразіць вароты саперніка мелі і Астапчык, і Ясінскі, і Місюк, і Баль, і Капельян. Гэта, не лічачы добрых момантаў, у актыўных, як заўжды, Вярбіцкага і Аначэнкі. Але ж першая палова гульні так і скончылася нічыёй.

Поўная перавага "Камунальніка" над сапернікам вылілася ў галы толькі ў другой палове другога тайма. А спачатку Вярбіцкі перамудрыў, абыгрываючы варатара. Аначэнка прабіў міма варотаў, атрымаўшы і выдатна апрацаваўшы мяч у раёне адзінаццаціметровай адзнакі. Варанцоў не здолеў утаймаваць мяч пасля памылкі варатара гасцей на выхадзе.

Распячатаць вароты "Нёмана" слонімцы здолелі толькі на 69-й хвіліне гульні. У штрафной збілі Аначэнку. Пенальці беспамылкова прабіў Дзмітрый Капельян. Трыбуны стадыёна ўзарваліся апладысментамі і патрабаваннем яшчэ хаця б аднаго гола.

Праведзеныя замены не парушылі атакуючыя парадкі "Камунальніка". І Цішчанка, і Чэпкі мелі па некалькі момантаў прабіць па варотах мастаўчан, але ў "рамку" не патраплялі. Затое добра на 88-й хвіліне прыклаўся да мяча Алег Вярбіцкі. Яго ўдар метраў з 28-мі зрабіў лік на табло "Дынама" 3:1 і павялічыў асабісты рахунак Алега да шасці галоў. Адзначым, што гэта быў ужо другі "дубль" Вярбіцкага ў гэтым чэмпіянаце.

Госці і думаць забыліся пра свае атакі і ўвесь другі тайм правялі ў абароне, толькі пару разоў пенепакоіўшы Сяргея Бекіша навяснымі перадачамі. А пераламіць ход гульні мастаўчане ўжо не здолелі. Ды й "Камунальнік" у гэтым матчы быў відавочна мацнейшым. Адных галявых момантаў каля варотаў гасцей слонімцы стварылі гульні на тры.

Прыкметны і рост майстэрства нашых футбалістаў. Калі б яшчэ добрае, без купін і калдобінаў поле, можна было б больш спакойна глядзець у будучыню слонімскага футболу.

Наступны матч "Камунальнік" праводзіць на выездзе 21 ліпеня супраць каманды-аўтсайдэра сёлетняга чэмпіянату "Рагачоў-ДЮСШ-1". На пачатку другога круга слонімцы згуляюць 29 ліпеня ў Жодзіна супраць "Тарпеда"(першы матч выйграў "Камунальнік", 1-0).

А чарговы матч у родным горадзе адбудзецца толькі 5 жніўня з бярозаўскім "Керамікам" (у першай гульні перамаглі слонімцы, 2-0).

**Валерый КАВАЛЕНКА**


*Балельшчыкі задаволены гульнёй сваіх любімцаў*

Фота Віталя Гіля

**Вынікі матчаў 14-га тура:**

| | |
|---|---|
| Свіслач — ЗЛіН, | 2-2 |
| Ліда — Зорка-ВА-БДУ | 2-1 |
| Тарпеда-Кадзіна — Дынама-Юні | 1-0 |
| Граніт — Керамік | 4-1 |
| Дарыда — Тарпеда | 1-2 |
| Орша — Рагачоў-ДЮСШ-1 | 3-2 |

ЧЭМПІЯНАТ ВОБЛАСЦІ

# УСЯГО ТОЛЬКІ АЧКО НА ВЫЕЗДЗЕ

**Камунальнік-2 — Славянка (Дзятлава), 1 – 1**

Дзятлава. 14 ліпеня.
Суддзя: Д.Клепча (Ліда)
Камунальнік-2: Гайдзецкі, Сямёнаў, Грыб, Скляр, Зубко, Дэйка (Крыкун), Снапко, Грынюк, Боцік, Берг, Кузьміч.
Галы: 45, Грынюк (Камунальнік-2).

Прывучыўшы сваіх балельшчыкаў да перамог, слонімскі "Камунальнік-2" не здолеў абыграць дзятлаўскіх футбалістаў на іх полі. Толькі ці можна было назваць тую паляну полем, гэта яшчэ пытанне спрэчнае. Бо добра згуляць у "траве па пояс" немагчыма.

Менавіта таму, па якасці гэтая гульня атрымалася адной з горшых для слонімцаў. Мала было і ўдараў па варотах саперніка, і гульні ў сярэдзіне поля. Не ўдавалася камбінаваць, усё скончвалася на другой-трэцяй перадачы.

Тым не менш, пад занавес першага тайма гаспадары атрмалі гол у свае вороты. Смела ўзяў гульню на сябе Іван Грынюк, наблізіўся да штрафной пляцоўкі дзятлаўчан і хлёстка прабіў пад перакладзіну. Варатар "Славянкі" выратаваць сваю каманду ў гэтай сітуацыі не здолеў.

У другой палове матчу малюнак гульні не змяніўся. Мала асэнсаваная штурханіна ў сярэдзіне поля дапаўнялася яшчэ і прадузятым судзействам галоўнага арбітра матчу. Гол у адказ гаспадары здолелі забіць менавіта пасля цалкам прыдуманага адзінаццаціметровага.

У нашай штрафной сутыкнуліся нехта з абаронцаў "Камунальніка-2" і нападаючы дзятлаўчан. Свісток суддзі прагучаў толькі недзе праз паўхвіліны, прызначаючы пенальці, які гаспадары і выканалі без асаблівых праблем.

З лікам 1:1 гульня скончылася.

# "СЛАВИЯ" — НА ФАРЕРАХ, "ДИНАМО" — В ГЕРМАНИИ

**Вагур (Фареры) — Славия (Мозырь), 0 — 0**

**В первом квалификационном раунде Лиги чемпионов мозырьской "Славии" достался соперник с Фарерских островов — команда "Вагур", любительский клуб, выступают за который, в основном, местные рыбаки.**

Поэтому белорусская команда рассчитывала в этом выездном матче только на победу. Но раскусить оборону хозяев поля мозырянам так и не удалось, несмотря на обилие голевых моментов, созданных гостями. Только ударов по воротам фарерцев белорусы нанесли двадцать, против четырех — по воротам белорусской команды. Большую часть игрового времени футболисты "Славии" провели на половине поля "Вагура", но так и не завершили своих атак хотя бы одним голом.

В послематчевом интервью главный тренер мозырян Владо Петрович поделился своими впечатлениями об игре:

— Мы полностью доминировали на поле, играли в атакующий футбол, но так и не смогли извлечь из этого выгоду. "Вагур" же продемонстрировал именно тот футбол, который мы от него и ожидали. Сугубо оборонительная тактика, девять игроков в защите и ставка на контратаки — двумя нападающими. Такого соперника нужно обыгрывать и на его поле. На это мы и рассчитывали, но, увы, не получилось. Однако уж в Мозыре, при поддержке болельщиков, фарерцев должны победить непременно.

Ответный матч в Мозыре состоится 18 июля.

**Вольфсбург (Германия) — Динамо (Минск), 4–3**

Такой результат первого матча третьего раунда Кубка Интертото на поле соперника оставляет для минчан неплохие шансы на выход в следующий этап. Да и, судя по игре динамовцев, победить в домашнем матче "Вольфсбург" им вполне по силам. А забивать белорусы умеют. Это продемонстрировал и матч в Германии.

Пропустив быстрый гол на 4-й минуте, уже на 6-й "Динамо" отыгралось, правда, с пенальти. И пусть следующие пятьдесят минут игры пролились холодным душем на головы динамовцев в виде трех голов, концовка матча осталась все же за минчанами. Сначала Леденев за 11 минут до финального свистка отыграл один мяч. Точку же забитым в игре голам поставил Петр Качуро.

Проигрыш в один мяч — вполне достойный результат в гостевой игре против клуба бундеслиги. Игра понравилась и главному тренеру "Динамо" Александру Пискареву.

— Команды продемонстрировали зрелищный футбол. Рад за своих ребят, которые сумели собрать волю в кулак и не рассыпаться в ситуации, близкой к безнадежной.

Ответный матч состоится 21 июля в Минске на стадионе "Динамо".

**Валерий КОВАЛЕНКО**

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА ПАСЛЯ 14-ГА ТУРА

| | | гульні | В | Н | П | ачкі | мячы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Дарыда | 13 | 9 | 3 | 1 | 30 | 24-8 |
| 2. | Тарпеда | 13 | 9 | 2 | 2 | 30 | 21-8 |
| 3. | Хімік | 13 | 8 | 3 | 2 | 27 | 25-10 |
| 4. | Тарпеда-Кадзіна | 14 | 8 | 2 | 4 | 26 | 14-11 |
| 5. | Ліда | 13 | 6 | 4 | 3 | 22 | 28-11 |
| 6. | Зорка-ВА-БДУ | 13 | 6 | 4 | 3 | 22 | 26-11 |
| 7. | Граніт | 13 | 6 | 2 | 5 | 20 | 25-14 |
| 8. | Орша | 13 | 6 | 1 | 6 | 19 | 19-19 |
| 9. | Керамік | 13 | 5 | 3 | 5 | 18 | 14-16 |
| 10. | Камунальнік | 13 | 5 | 1 | 7 | 16 | 16-18 |
| 11. | ЗЛіН | 13 | 3 | 4 | 6 | 13 | 15-19 |
| 12. | Свіслач | 13 | 3 | 2 | 8 | 11 | 13-29 |
| 13. | Дынама-Юні | 13 | 2 | 3 | 8 | 9 | 10-21 |
| 14. | Нёман | 13 | 2 | 2 | 9 | 8 | 10-28 |
| 15. | Рагачоў-ДЮСШ-1 | 13 | 0 | 4 | 9 | 4 | 11-39 |

